ПЯЦЬ ГАДОЎ СЯБРОЎСТВА І ПРАЦЫ

# Ідэалёгія вольных магчымасьцяў

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН, кіраўнік праекту "Інтэрнэт-клюб":**

**– "Кола сяброў" наладзіла праект, які быў падтрыманы амэрыканскай праграмай IATP. Ягоная сутнасьць палягае ў тым, каб пра магілёўскія NGO, пра справы і праблемы нашага недзяржаўнага грамадзкага сэктару стала вядома як мага большай колькасьці зацікаўленых асобаў. Адначасна, праект дазваляе атрымаць агульную карціну сёньняшняга стану мясцовых NGO, праясьніць спэктар іх працы, асноўную скіраванасьць. Дзеля гэтага ў Інтэрнэце быў разьмешчаны адмысловы сайт. У ім, акрамя іншага, – матэрыялы штомесячных інфармацыйна-аналітычных аглядаў жыцьця Магілёўскай вобласьці, артыкулы з газэты "Тыднёвік Магілёўскі", бюлетэня "Nota Bene". Прадугледжаны на сайце форум дазваляе абмеркаваць любыя праблемы пры больш шырокай і плюралістычнай аўдыторыі.**

**Ужо каля 60 NGO маюць сваю міні-старонку на згаданым сайце. Там можна пабачыць ня толькі зарэгістраваныя арганізацыі, але і нефармальныя грамадзкія ініцыятывы. Іхная прыхільнасьць да дэмакратычных каштоўнасьцяў і жаданьне ладзіць сваю працу адкрыта ды на карысьць людзей – адзіны пропуск на сайт.**

**Варта адзначыць, што названы праект ёсьць толькі часткаю агульнай Інтэрнэт-праграмы "Кола сяброў". Наперадзе – пашырэньне і разьвіцьцё сайту, напаўненьне яго больш разнастайнай і карыснай інфармацыяй дзеля пашырэньня непадцэнзурнай камунікацыі сучаснага беларускага грамадзтва.**



# Апраўданай прычыны няма

*Магілёўскія гарадзкія ўлады запатрабавалі ад некалькіх дзясяткаў прадпрымальнікаў, якія гандлююць на стадыёне "Спартак", перамясьціца на іншы рынак. Чыноўнікі патлумачылі сваё рашэньне неабходнасьцю рэканструкцыі стадыёну.*

Прадпрымальнікі выказваюць зьдзіўленьне з нагоды такога пункту погляду, бо знаходжаньне некалькіх дзясяткаў разборных шапікаў і арганізаваны да іх праход пакупнікоў ніяк не паўплываюць на рэканструкцыю стадыёну. Як стала вядома, гарвыканкам заплянаваў выдаліць менавіта тых гандляроў, якія мелі гандлёвыя месцы і на іншых рынках горада. Першапачаткова плянавалася, што гэта будуць тыя магілёўцы, якія вядуць гандаль, акрамя "Спартаку", яшчэ на Быхаўскім і Кастрычніцкім рынках. Але, калі высьветлілася, што Быхаўскі рынак поўнасьцю заняты, рашэньне распаўсюдзілася толькі на тых, хто мае дадатковыя месцы на гарадзкім Кастрычніцкім рынку. Адміністрацыя стадыёна "Спартак" апынулася ў дваякім становішчы. З аднаго боку, яна зацікаўленая ў тым, каб мець больш прадпрымальнікаў і, адпаведна, – больш прыбытку. Але, зь іншага боку, трэба выконваць загад гарвыканкаму. Тым больш, што гэтыя прадпрымальнікі ўжо заплацілі грошы за свае месцы, але, паводле (вуснага!) чыноўніцкага распараджэньня ім не далі абанэмэнтаў на права гандлю ў сьнежні.

Старшыня Свабоднага прафсаюза прадпрымальнікаў Магілёву Сяргей Фамін мяркуе, што рэканструкцыя стадыёну не пачнецца да вясны, бо ва ўлады цяпер на гэтую справу няма сродкаў. Таму, паводле ягонага меркаваньня, здаровага сэнсу ў гэтых перамяшчэньнях няма.

Тут нешта іншае – зайздрасьць, злосьць, капрыз, глупства? Хто ведае...

*Алесь СЕРДЗЮКОЎ*

# Каб такое адбывалася ў Эўропе?!

Пасьля нядаўняга паказу фільма Паўла Шарамета "Дзікае паляваньне" на першым дзяржаўным швэдзкім телеканале, у гэтай краіне распачаўся збор подпісаў пад зваротам да Лукашэнкі.

У звароце – патрабаваньне правесьці руплівае дасьледаваньне абставінаў зьнікненьня Завадзкага, Ганчара, Красоўскага і Захаранкі й абнародваць праўду пра вінаватых у гэтых зьнікненьнях.

Збор подпісаў зьініцыявала швэдзкая фотамастачка і грамадзкая дзяячка Марыя Сёдэрбэрг. Яна паведаміла, што зварот, сярод іншых, падпісалі 124 дэпутаты швэдзкага парлямэнту. Мэта Марыі Сёдэрбэрг – сабраць тысячу подпісаў, пасьля чаго перадаць гэтую пэтыцыю ў беларускую амбасаду ў Стакгольме. Збор подпісаў працягнецца да 19 сьнежня.

Фільм настолькі ўразіў швэдзкае грамадзтва, што быў паўтораны цягам тыдня. Швэды пыталіся: няўжо гэта – Эўропа? Бо тое, што адбываецца ў Беларусі, – нагадвае найгоршыя часы ў краінах Паўднёвай Амэрыкі.

Тым часам афіцыйны запыт да Лукашэнкі пра лёс згінуўшых палітыкаў зрабіў швэцкі парлямэнт.

*Вольга КАРАТКЕВІЧ*

ПЯЦЬ ГАДОЎ СЯБРОЎСТВА І ПРАЦЫ

# Рэальныя мары жаноцкія

**Валянціна ГВАЗЬДЗЁВА, кіраўнік праекту "Жаночы цэнтар падтрымкі і самаадукацыі":**

**– Амаль 30 жанчынаў рознага ўзросту і прафэсіяў аб'ядналіся дзеля прафэсійна-творчай самарэалізацыі і самаадукацыі, абуджэньня сваёй грамадзкай актыўнасьці, узаемадапамогі ў часе экстрэмальных жыцьцёвых сытуацыяў. Сяброўкі цэнтру клопатамі і ўвагай ахуталі выхаванцаў спэцшколы, якія маюць патрэбу ў асаблівых умовах выхаваньня і навучаньня. Зразумела, што ў сябе цэнтар стварыў групу дзіцячага вольнага часу, якую па нядзелях наведвае больш за 40 дзяцей. Агульная наша зь імі мара – стварэньне пастаянна дзеючай галерэі дзіцячай творчасьці і выданьне кніжкі іхных паэтычных спробаў. Шмат што яшчэ ў плянах і намерах. Падступаемся да таго, каб арганізаваць школку псіхалягічнай рэабілітацыі і разьняволеньня для тых жанчынаў, якія на працы альбо ў грамадзкіх справах шмат кантактуюць зь людзьмі. Спадзяемся зацікавіць падлеткаў валанцёрскімі справамі сацыяльнага кірунку... Нашыя сяброўкі за два гады працы засьведчылі, што жаночыя мары абавязкова пераўтвараюцца ў жыцьцё.**



ПЯЦЬ ГАДОЎ СЯБРОЎСТВА І ПРАЦЫ

# Каталізатар ажыўленьня жыцьця

**Валадар ЦУРПАНАЎ, кіраўнік праекту "Інфармацыйная сетка":**

**– Інфармацыйная сетка склалася ў выніку ўсталяваньня партнэрскіх стасункаў між шэрагам найбольш дзейсных недзяржаўных грамадзкіх арганізацыяў вобласьці. Ад удзельнікаў праекту вымагаецца пошук, збор і распаўсюджваньне грамадзка вартаснай інфармацыі, якая па вядомых прычынах не трапляе ў афіцыйны друк. Для яе даступнага абвешчаньня спатрэбілася наладзіць выпуск собскага інфармацыйнага прадукта – малых газэткаў. Вакол іх сфармаваліся ініцыятыўныя людзі, якія займелі "свае" інфармацыйныя крыніцы, навучыліся апрацоўваць і аналізаваць інфармацыю, узаемаабменьвацца ёю. Гэта стварае адзіную інфармацыйную прастору, вельмі неабходную для плённай дзейнасьці ўсяго "трэцяга сэктару" вобласьці. Вакол інфармацыйных кропак у рэгіёнах фармуюцца на партнэрскіх і роўных дачыненьнях грамадзкія кааліцыі, розныя суполкі, грамадзкія ініцыятывы, кожная зь якіх захоўвае свой твар і ўнутраныя правілы, але й вучыцца супольнасьці і адзінству ў дэмакратыі.**



**Сетка пры тым працуе як агульны зладжаны мэханізм, часта аб'ядноўваючы чалавечыя і тэхнічныя рэсурсы дзеля вырашэньня праблемаў, якія паўстаюць перад усёй талакой альбо асобнымі сябрамі. Тым часам удзельнікі праекту не цураюцца ўдзелу ў вырашэньні сацыяльных рэгіянальных праблемаў, асабліва тых, што зьвязаныя зь дзецьмі і старымі. Менавіта гэта спрыяе ў раёнах росту прыцягальнасьці і павагі да апорных кропак сеткі з боку ня толькі структураванай грамадзкасьці, але й самага звычайнага насельніцтва. І бадай што найлепшым вынікам працы сеткі, разам з плённым досьведам уласна інфармацыйнай працы, ёсьць ажыўленьне і пашырэньне ў рэгіёнах вобласьці грамадзкага жыцьця як такога.**

# “Жалезная заслона” раённай выпечкі

*Хлеб, ці не найпершы прадукт на кожным сялянскім стале, даўно перастаў выпякацца саматужна. Аднак жа шмат дзе прамысловая вытворчасьць, безумоўна забясьпечыўшы колькасьць хлеба, сапсавала ягоную якасьць. Да такіх вытворцаў адносіцца Бялыніцкі камбінат каапэратыўнай прамысловасьці.*

Гэты камбінат жыў нядрэнна да таго часу, пакуль не займеў для сябе нечаканую канкурэнцыю. Прыватны прадпрымальнік Васіль Кузьняцоў пачаў прывозіць на продаж у гарадзкі пасёлак хлебныя вырабы з абласнога цэнтру. Потым ужо кіраўніцтва калгаса імя Заслонава дазволіла вясковай краме прадаваць людзям больш смачны і больш танны магілёўскі хлеб. Даўно зьніклыя з-за падзеньня попыту і зьбядненьня людзей чэргі аднавіліся ў крамах Кузьняцова і калгаснай. Аднак ніхто ня жаліўся, наадварот: людзі ахвотна зьбіраліся ў вызначаны час пад крамы, каб заадно пагутарыць і даведацца пра якія навіны...

Усё гэта, а найбольш падзеньне ўзроўню рэалізацыі хлебных вырабаў мясцовай вытворчасьці, занепакоіла начальства. Распаленае патрыятычнымі пачуцьцямі раённага маштабу, яно, начальства, у асобах старшыні райвыканкаму Г.Шпакоўскага і загадчыцы райвыканкамаўскага аддзелу "па эканоміцы і рынкавых адносінах" (!) Т.Лазоўскай выдала афіцыйнае Распараджэньне аб забароне продажу ў раёне "не свайго хлеба".

Не аб тым распараджэньне, каб навесьці парадак на мясцовым камбінаце райпа. Не аб тым, каб прааналізаваць прычыны дрэннай якасьці гэтага "свайго хлеба" й адначасна – высокага яго кошту. Не аб тым, каб на карысьць людзям і вытворчасьці падтрымаць і заахвоціць здаровую канкурэнцыю... Не! Аб тым, каб – забараніць!

Вось што напісана ў Распараджэньні (для чытачоў, хто ў такое не паверыць, цытую па арыгіналу): "В целях дальнейшего развития промышленного производства в районе запретить продажу хлеба и хлебобулочных изделий из г.Могилёва в торговых предприятиях колхоза им.Заслонова (Галковский Г.И) и предприятия "Универсал" (Кузнецов В.И.)". Далей названым адказным асобам "рекомендуется" заключыць дамовы на пастаўку хлеба і хлебных вырабаў на іхныя "предприятия торговли" выключна з камбіната каапэратыўнай прамысловасьці райпа.

Аднак і гэта ня ўсё. Калі "рэкамэндацыя" ня будзе выкананая, папярэджвае Распараджэньне, тая ж Т.Лазоўская разам з галоўным санітарным урачом раёна А.Жаўрыдам абавязваюцца зусім "выключыць з асартымэнтнага пераліку гэтых крамаў хлеб і хлебабулачныя вырабы"... Ня нам, дык і ня вам! – вось гэта, сапраўды, патрыятызм!

Вось такое сярмяжнае разуменьне патрыятызму й апусьціла перад невінаватымі бялынічанамі своеасаблівую харчовую "жалезную заслону".

Падумалася, што начальніцкія магчымасьці для такога стылю кіраваньня і забесьпячэньня патрэбных паказчыкаў у "сваіх" прамысловасьці і сельскай гаспадарцы, практычна невычарпальныя. Усьлед за хлебам, можна таксама зрабіць з усімі харчовымі вырабамі. Затым можна будзе "прашарсьціць" раённы гандаль па ўсёй намэнклятуры прамысловых тавараў. Далей ня стане залішнім прайсьціся па тым, што "не мясцовага" прапануюць людзям прадпрыемствы паслугаў.

Наогул, можна будзе забараніць жыхарам раёна выязджаць за ягоныя межы дзеля набыцьця тавараў, а тым больш – увозіць іх у раён. Будуць усё, што трэба, набываць у родным куце. А гэта ж – выкананьне вытворчых плянаў, абаротныя сродкі, напоўнены бюджэт, вялікі таваразварот. Гэта – граматы, мэдалі й прэміі начальству. Гэта – тэлевізійная і газэтная вядомасьць. Гэта такія пэрспэктывы, што дыханьне сьпірае...

На жаль, нам – таксама. Толькі за што?..

**Базыль ЛІЦЬВІНОВІЧ**



## Удакладненьне

Рэдакцыя "ТМ" выбачаецца перад віцебскімі мастакамі-акварэлістамі за тое, што падала некаторыя іхныя прозьвішчы ў артыкуле "Век скончаецца..." у скажоным напісаньні. Даруйце нам і чытачы.

А мастакі, якія ўразілі магілёўцаў сваімі творчымі дасягненьнямі ў складаным жанры акварэлі, гэта – Гугнін і Шыянок.

**З павагай,** *"Тыднёвік Магілёўскі".*

**ПЯЦЬ ГАДОЎ СЯБРОЎСТВА І ПРАЦЫ**

# Стыль дыктуецца назовам

**Алесь АСІПЦОЎ, кіраўнік праекту моладзевага цэнтру "Ратуша":**

**– Найгалоўнейшым з прыярытэтаў на працягу ўсёй дзейнасьці "Ратушы" ёсьць фармаваньне моладзевае інфармацыйнае прасторы Магілёўшчыны. Ня меньш істотным напрамкам нашае дзейнасьці ёсьць вывучэньне, дасьледваньне, аналіз і выпрацоўка новых тэхналёгіяў моладзевай працы. Вядома, што пры ўсёй сваёй недасканаласьці моладзевыя грамадзкія арганізацыі ўплываюць на стаўленьне дзяржаўных структураў да моладзевае палітыкі.**

**Сёньня "Ратушу" прадстаўляюць 8 арганізацыяў, роўнасьць якіх базуецца на падмурку роўнасьці іхных кіраўнікоў. Нязьменнымі застаюцца падставовыя прынцыпы дзейнасьці Цэнтру: незаангажаванасьць адной палітычнай партыяй, партнэрства і ўзаемадапамога, магчымасьць выбару супольнікаў. Гэта дазваляе рэалізоўваць параўнальна вялікую колькасьць праектаў. Толькі за бягучы год пры падтрымцы й спрыяньні "Ратушы" было праведзена больш за 15 мерапрыемстваў, збольшага адукацыйнай і праваабарончай накіраванасьці. Сфармаваная база дадзеных, у якой прысутнічае больш за 35 арганізацыяў Магілёўшчыны. Вядзецца праца па выданьню свайго бюлетэню. У бліжэйшых плянах "Ратушы" – правядзеньне трэцяга "кольнага стала" моладзевых арганізацыяў вобласьці, удзел у якім возьмуць каля 30 арганізацыяў.**

**Самая назва нашага Цэнтру – знакавая, бо Ратуша як сымбаль майдэборскага права і самакіраваньня, перадусім ёсьць сьведчаньнем ступені разьвіцьця грамадзтва й месца знаходжаньня кожнага грамадзяніна ў ім.**



**ПЯЦЬ ГАДОЎ СЯБРОЎСТВА І ПРАЦЫ**

# Усё, што нам і вам цікава

**Аляксандра ПРОНЬКІНА, рэдактар бюлетэню "NOTA BENE":**

**– Штомесячны бюлетэнь як сталы праект "Кола сяброў" нарадзіўся тры гады таму. Ягонай сьціплай задачай на той час было інфармацыйнае абслугоўваньне сяброў абласной Асамблеі недзяржаўных грамадзкіх арганізацыяў, на што хапала накладу ў 55 асобнікаў. А зь мінулага году бюлетэнь стаўся складнікам абласной Інфармацыйнай сеткі, што адразу запатрабавала некаторых значных зьменаў у ягоным жанры, тэматыцы і г.д. Сёньня выданьнем паслугоўваецца амаль паўтары сотні арганізацыяў у Беларусі, Украіне, Малдове. Невялікая рэдакцыя абапіраецца найперш на рэгіянальных грамадзкіх карэспандэнтаў, якія падаюць інфармацыйныя і праблемныя паведамленьні пра жыцьцё грамадзкіх арганізацыяў, фармаваньняў і ініцыятываў. На нашую думку, пастаянны чытач "NB" дастаткова добра ведае іхныя праблемы, досьвед і пэрспэктывы, заўсёды мае магчымасьць сам выступіць у бюлетэні, а тым больш далучыцца да цікавай грамадзкай справы. Зрабіць гэта сталася цяпер прасьцей, паколькі зь нядаўняга часу "NB" займеў сваю старонку ў Інтэрнэце.**



**ПЯЦЬ ГАДОЎ СЯБРОЎСТВА І ПРАЦЫ**

# Высокая місія культуры

**Аляксандар ЛІЦІН, кіраўнік праекту "Культурніцкая ініцыятыва":**

**–"Кола сяброў" заўсёды падтрымлівала культурніцкія праекты, што тычыліся выяўленчага мастацтва, музыкі, фатаграфіі альбо літаратуры. Да іх можна аднесьці наладжаныя цягам апошніх гадоў з удзелам саміх творцаў фота- і мастацкія выставы, канцэрты, тэатральныя вечарыны, сустрэчы зь вядомымі пісьменьнікамі. Апошнім годам у нас зьявіліся больш прывабныя ўмовы для стварэньня ў грамадзкім асяродзьдзі своеасаблівай культурнай аўры, якой не хапае часам у затурканай нашай будзённасьці. Гэта сталася магчымым праз далучэньне да працы новых ініцыятыўных людзей зь неардынарнымі ідэямі, якіх у горадзе выявілася шмат.**

**Праз гэтую дзейнасьць мы дапамагаем спраўджваць самакаштоўнасьць Мастацтва і значнасьць постаці Мастака ня толькі ў сваім асяродку. Тым самым мы спрабуем пашыраць у грамадзтве самую мастацкую прастору, далучэньне да якой узьнімае чалавека, дорыць яму разуменьне прыгожага, засьцерагае ад дрэнных думак і ўчынкаў. Ці ж ня тое самае мае на мэце і самое Мастацтва?..**




Рэдактар Генадзь СУДНІК






Аналітычна-інфармацыйная газэта.
Заснаваная Магілёўскім ГА «КОЛА СЯБРОЎ».

*Зарэгістраваная ў Дзяржкамітэце РБ па друку 06.11.1996 г. за № 831.*

*Штотыднёвік*



АДРАС РЭДАКЦЫІ:
212030, г. Магілёў, вул. Першамайская, 6-22.

Тэл./факс: 31-04-15, 22-97-82.
E-mail: krug@user.unibel.by
Інтэрнэт: http://tydniovik.hypermart.net



Газэта надрукаваная афсэтным спосабам у абласной друкарні імя Я.Свярдлова, г. Магілёў, Першамайская 70. Замова 48. Наклад 2000 асобнікаў. Падпісана да друку 7.12.2000 г. а 17.05.